*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 51 (263)

20 снежня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **АДБЫЎСЯ ДРУГІ ТУР ВЫБАРАЎ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Па папярэдніх звестках выбары адбыліся ў 70 акругах і выбрана 59 дэпутатаў. Сярод іх такія вядомыя людзі, як С.Шушкевіч, С.Багданкевіч, Г.Карпенка, П.Краўчанка, В.Ганчар і іншыя. Такім чынам, у новы Вярхоўны Савет на сённяшні дзень абрана 198 дэпутатаў, і гэта дастаткова, каб парламент пачаў сваю працу.

○ ***У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» ДЭПУТАТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ XIII СКЛІКАННЯ, СТАРШЫНЯ АГРАРНАЙ ПАРТЫІ СЯМЁН ШАРЭЦКІ** на пытанне: «Як вы ставіцеся да прынятага рэферэндумам дзяржаўнага двухмоўя?» адказаў: «У дачыненні да моў нельга дапусціць ніякага насілля. У ідэале дзяржаўнай моваю павінна быць беларуская. Аднак доўгі час яна была забаронена ці ёй надавалася недастаткова ўвагі — таму шмат людзей, у тым ліку ў вёсцы, пачалі размаўляць па-руску... Калі б ад мяне залежала, паставіў бы пытанне так: калі хочаш быць дзяржаўным служачым, кіраўніком, дык абавязкова павінен ведаць беларускую мову».*

○ **СПОЎНІЛАСЯ ЧАТЫРЫ ГАДЫ З ДНЯ ЗАСНАВАННЯ СНД.**

○ ***У МЕНСКУ Ў РЭСПУБЛІКАНСКІМ ВЫСТАВАЧНЫМ ЦЭНТРЫ Ў ЧАРГОВЫ РАЗ** прайшоў міжнародны кірмаш «Усход—Захад—Поўнач—Поўдзень». У кірмашы ўдзельнічала больш як 220 экспанентаў...*

○ **СТВОРАНЫ І ЗАРЭГІСТРАВАНЫ Ў МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ НАШАЙ КРАІНЫ БЕЛАРУСКІ РУХ АБАРОНЫ НАРОДА.** Асноўная мэта новай арганізацыі — абарона правоў людзей, якія гарантаваны Канстытуцыяй, прававая адукацыя насельніцтва, маральная і матэрыяльная падтрымка яго, у першую чаргу — жыхароў зоны чарнобыльскай бяды. Старшынёй руху стаў рэктар недзяржаўнага гуманітарна-эканамічнага інстытута ў Менску прафесар Аляксандр Алпееў.

○ ***З 1 САКАВІКА НАСТУПНАГА ГОДА ЗАКРЫВАЕЦЦА ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» І ДРУКАРНЯ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ.** Такое рашэнне прыняў прэзідыум Акадэміі навук Беларусі. Паводле папярэдніх ацэнак, закрыццё выдавецтва і друкарні будзе каштаваць акадэміі не менш чым 800 млн.рублёў.*

○ **У ГАРОДНІ ПРАХОДЗЯЦЬ ЗДЫМКІ ПЕРШАГА БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕСЕРЫЯЛА «ПРАКЛЯТЫ ЎТУЛЬНЫ ДОМ»,** які па раману Стэфана Жэромскага «Верная рака» здымае Беларускае тэлебачанне сумесна з «Белвідэакіно». Падзеі ў ім прыпадаюць на 1863 год, калі пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Здымкі ўжо праводзіліся ў Карэлічах, Навагрудку і іншых гарадах.

○ ***У ЛІТАРАТУРНЫМ МУЗЕІ ЯНКІ КУПАЛЫ ПРАЦУЕ ВЫСТАВА ДОМА-МУЗЕЯ ЧАРЛЬЗА ДЗІКЕНСА З ЛОНДАНА.** Паказ стаў магчымым дзякуючы намаганням супрацоўнікаў абодвух музеяў, Брытанскага савета і нашага Міністэрства культуры і друку.*

***У ГІСТОРЫКАЎ ТАКСАМА ЁСЦЬ АБАВЯЗКІ***
*Стар. 3.*



***NÁŠ PŘÍTEL MILOSLAV ZIMA***
*Стар. 4.*

*Беларускае замежжа*

# Культура яднае

*Гутарка з Пятром Міхайлавічам Малафеем, кіраўніком Беларускага культурнага цэнтра ў горадзе Шальчынінкай (Вялікія Салечнікі).*

**— Пётр Міхайлавіч, Вы ўзначальваеце Цэнтр беларускай культуры ў сваім горадзе. Раскажыце больш падрабязна аб яго ўтварэнні і дзейнасці.**

— Беларускі культурны цэнтр у Шальчынінкаі працуе з 18 чэрвеня мінулага года. У яго адкрыцці прымалі ўдзел кіраўнік парламента Летувы Чэслаў Свяршэнас, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, шматлікія святары, прадпрымальнікі і афіцыйныя асобы з Летувы і Беларусі, асабліва з Гарадзенскай вобласці. Наш Цэнтр мае сваё памяшканне, мэблю і ўсе тэхнічныя сродкі, неабходныя для існавання: ксеракс, факс і іншае сучаснае абсталяванне. Маем нават свой аўтамабіль і штатную адзінку супрацоўніка цэнтра. Адным словам, стаім на нагах трывала.

**— Памяшканне арандуеце?**

— Мы, беларусы Шальчынінкая, адбудавалі для Цэнтра стары Дом культуры, які не выкарыстоўваўся больш за дзесяць гадоў. Цяпер гэты дом самы прыгожы ў горадзе. Дзяржава не бярэ з нас плату за арэнду памяшкання і камунальныя паслугі, а час ад часу, хоць і мізэрнымі сумамі, яшчэ і дапамагае нам.

**— Ці многа вас у гурце?**

— Цэнтр аб'ядноўвае прыкладна 2 тысячы беларусаў, актыў яго меншы — каля 80 чалавек. А чым займаемся? Ладзім культурныя мерапрыемствы. Рада над гэтымі пытаннямі ўвесь час працуе.

**— На шырокую грамадскасць выходзіце?**

— Безумоўна. На святкаванне ўгодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў нас была паўнюткая зала. Маем дамову з суседнім раёнам Беларусі аб культурным супрацоўніцтве. Дарэчы, першыя культурныя абмены ўжо адбыліся. У нас пабываў з канцэртам Воранаўскі ансамбль «Лявоны». І самі мы рыхтуемся да паездак у Беларусь з канцэртамі, дзеля чаго стварылі гурт мастацкай самадзейнасці і набылі піяніна. Пахваліося, што ў Цэнтры паспяхова працуе факультатыў беларускай мовы для дзяцей старэйшых класаў, а вядзе заняткі ўраджэнка Беларусі Голік Вольга Іванаўна.

**— На грамадскіх пачатках?**

— Не, заработную плату яна атрымлівае ад летувіскай дзяржавы. Што да іншых мерапрыемстваў, то па нашай ініцыятыве адбываюцца спаборніцтвы супрацоўнікаў праваахоўных органаў памежных раёнаў Летувы і Беларусі — яны змагаюцца за прыз нашага Цэнтра. Сёлета правялі свята беларускай моладзі, рыхтуем свята навагодняй ёлкі для хворых дзяцей — гэта наша традыцыйнае мерапрыемства. Цэнтр удзельнічае таксама ў будаўніцтве праваслаўнага храма ў Вялікіх Салечніках.

**— Цікава, чаму ваш горад мае дзве назвы — летувіскую і беларускую?**

— Бо гэта летувіска-беларускі горад. Прыкладна чацвёртая частка яго жыхароў — беларусы. Жывуць сярод нас і палякі, але яны па-беларуску размаўляюць лепш, чым мясцовыя беларусы, і мы з імі на гэтай падставе кансалідуемся.

**— Палякі аб'яднаны ў сваю суполку?**

— Яны аб'яднаны ў Саюз палякаў Летувы. Скажу больш: у час апошніх выбараў польская партыя прыйшла да ўлады і ў раёне, і ў Віленскім краі, таму мы афіцыйна з імі супрацоўнічаем. У сваю чаргу, палякі нам дапамагаюць ва ўсім. Ніякай варожасці паміж намі няма. Зараз вось разам рыхтуемся налета адкрыць помнік Кастусю Каліноўскаму, які ў час паўстання 1863 г. ваяваў у гэтых мясцінах. Непадалёку ад Салечнікаў жыла жонка Зыгмунта Серакоўскага, аднаго з кіраўнікоў паўстання, і сям'я Балеўскіх, якія былі шчырымі патрыётамі Беларусі, а не толькі Польшчы. Вось такія нашы справы, а як будзе далей — жыццё пакажа. Бываюць складанасці, якія нельга прадбачыць. Да мяне, прыкладам, аднойчы ўварваліся нейкія фанатыкі, ударылі па галаве, а потым доўга збівалі. Але я выжыў, шмат часу прабыў у шпіталі. Гаварылі бандыты па-расійску і папольску.

**— Калі гэта здарылася?**

— Калі я пачаў з суайчыннікамі будаваць Беларускі культурны цэнтр.

**— А як наконт кантактаў вашай арганізацыі з іншымі?**

— Акрамя віленскіх суполак, мы падтрымліваем сувязь з эстонскімі, латвійскімі і беларускімі суполкамі, найбольш цесныя — з упраўай «Бацькаўшчыны» і асабіста старшынёй Цэнтральнай рады Ганнай Сурмач. Аднойчы прыязджаў да нас прадстаўнік ад амерыканскай суполкі беларусаў, а нядаўна мы прымалі ў цэнтры госця з Германіі — сусветна вядомага вучонага Барыса Кіта, які паходзіць з Навагрудчыны. Аднак я ўпэўнены, што мае праблемы — гэта мае праблемы, і з кім бы я ні кантактаваў — ад Амерыкі да Менска — за мяне ўсё роўна ніхто іх не вырашыць. Мы, напрыклад, выдаём газету «Наша старонка» — адзіную рэгіянальную газету на беларускай мове ў Летуве, — і яна — мой клопат і мая праблема...

**— А як з фінансаваннем газеты?**

— Дапамагаюць бізнесмены пад канкрэтныя мэты.

**Ірына КРЭНЬ.**

*Палітычны слоўнік тыдня*

# Права, улада, закон, легітымнасць

Права заўсёды канкрэтнае для кожнай дадзенай гістарычнай сітуацыі — іменна пагэтаму законы змяняюцца ў адпаведнасці са зменай умоў: неабходна зацугліваць уладу, заўсёды гатовую парушыць закон, — адсюль заснаваны на законе прымус, скіраваны супраць злачынства.

Там, дзе пануе гвалт, мы адчуваем страх: там, дзе ўладарыць закон, мы жывем спакойна. Дзеянні ўлады не могуць быць прадбачаны, яны адвольныя, просты чалавек, індывідуум безабаронны і цалкам залежыць ад яе. Закон можа быць прадбачаны, ён уносіць парадак, індывідуум знаходзіць у ім абарону свайму існаванню. Ва ўмовах законнасці пануе непасрэднасць, свабода і спакой. Ва ўмовах гвалту пануюць маўчанне і скрытнасць, прымус і хваляванні. У прававой дзяржаве гаспадарыць давер, у дзяржаве гвалту — усеагульны недавер адзін да аднаго.

Даверу патрэбна цвёрдая апора, несакрушальная аснова, нешта, якое настолькі выклікае ўсеагульную павагу, што любы парушальнік без аніякай цяжкасці можа быць аб'яўлены злачынцам і выгнаны з грамадства. Падобная несакрушальнасць даверу завецца легітымнасцю... Легітымнасць падобна магу, што бесперапынна стварае неабходны парадак з дапамогаю даверу; нелегітымнасць — гэта прымус, які паўсюдна спараджае гвалт, заснаваны на недаверы і страху... Адсюль і надзвычайная павага разумных да крыніцы легітымнасці. Наша эпоха бачыць яе ў выбарах і галасаванні... Палітычная свабода ўстанаўліваецца не ў выніку чыста разумовых меркаванняў, яна звязаная з легітымнасцю... Толькі пры наяўнасці легітымнасці існуе свабода, бо легітымнасць стрымлівае ўладу... Разуменне легітымнасці прымушае мірыцца з сур'ёзнымі недахопамі, каб пазбегнуць абсалютнага зла — тэрору і страху пры дэспатычным рэжыме.

**Карл ЯСПЕРС,**
**выдатны нямецкі філосаф XX стагоддзя.**

*З нагоды*

# Выбар зроблены?

Калі пішуцца гэтыя радкі, на вуліцах гарадоў і сёл Беларусі вецер змятае апошнія агіткі часу прайшоўшых выбараў. Але па свежых уражаннях я хацеў бы сёе-тое ж згадаць, як некаторыя шукальнікі дэпутацкіх мандатаў за іх змагаліся. Асабліва ж — як выказвалі свае адносіны да беларуска-расійскіх моўных і культурных дачыненняў.

...Мне, як сябру Беларускага Хельсінкскага камітэта, давялося пабываць на першым выбарчым участку Заслаўскай акругі № 196 па выбарах у Вярхоўны Савет. Там жа балатаваліся і кандыдаты ў дэпутаты ў Менскі абласны Савет. У часе першага туру кінулася ў вочы, што ў вестыбюлі школы № 1 г.Заслаўя — тут якраз і месціўся той участак — на дошцы аб'яў прыклееныя ўлёткі ці не ўсіх, так бы мовіць, «герояў дня». Такія ж самыя лістоўкі — і каляровыя, і

*(Заканчэнне на с.2.)*

*Жыццё Таварыства*

# Патрабуецца годнасць і мужнасць

***Старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ прафесар Мікалай Савіцкі адказвае на пытанні нашага карэспандэнта***

**— Сёння сталічная Рада працуе ў новых умовах, прадыктаваных нам вынікамі рэферэндуму і рашэннямі чацвёртага з'езда Таварыства, які нядаўна адбыўся. З'езд звярнуў увагу на неабходнасць умацавання арганізацыйнай структуры, пашырэння кола сяброў першасных суполак, прыцягненне да працы ў Таварыстве новых прыхільнікаў беларускага слова.**

— На вялікі жаль, сітуацыя, што ствырылася ў грамадстве, вымагае ад людзей, якія хочуць нешта рабіць разам з намі, пэўнай мужнасці і смеласці. Прычына гэтаму тое, што мы жывём ва ўмовах моўнай і культурнай рэакцыі. Таму мы як сталічная арганізацыя бачым сваю задачу ў тым, каб звярнуць увагу кіраўніцтва горада і краіны на неабходнасць дакладнай рэалізацыі вынікаў травеньскага рэферэндуму — гэта значыць забяспечыць рэальную роўнасць беларускай і расійскай моваў. І мы, Менская гарадская Рада, збіраемся рабіць адпаведныя захады дзеля распрацоўкі ў горадзе адпаведнай праграмы ажыццяўлення прынцыпу роўнасці моваў адпаведна вынікам рэферэндуму. Напрыклад, дамагацца, каб тэксты грамадскага прызначэння — пастановы гарадскіх уладаў, сацыяльная і камерцыйная рэклама на вуліцах выконваліся паралельна па-расійску і па-беларуску.

**— Якім спосабам вы збіраецеся ўплываць на рашэнні гарадскіх уладаў — праз сяброў ТБМ, абраных у муніцыпальныя органы?**

— Спосабы нашага ўздзеяння на ўлады вынікаюць з нашых магчымасцей і нашага статуса грамадска-асветніцкай арганізацыі. Рада мае наладжаныя раней сувязі з кіраўніцтвам горада і яго раёнаў і збіраецца дзейнічаць менавіта з яго дапамогай. Бо самі мы не маем ні грашовых, ні іншых сродкаў на забеспячэнне выканання нашых праграм і патрабаванняў. Але ў супрацоўніцтве з гарадскімі аддзеламі адукацыі ці культуры мы ў стане нешта зрабіць. Такім спосабам Радай ужо ладзіліся круглыя сталы, канферэнцыі і іншыя мерапрыемствы на карысць беларушчыны. Таму лічу неабходным працяг і развіццё гэткай формы сумеснай працы.

На жаль, такім спосабам магчыма вырашыць толькі частку нашых праблем. Так, напрыклад, суадносіны беларуска- і расійскамоўных падручнікаў, выдаваных «Юнацтвам», якое раней складала 70 і 30 працэнтаў, сёння змянілася ў адваротны бок. Але зрабіць нешта на нашую карысць гарадская Рада тут не ў стане, бо гэта — вынік ажыццяўлення патрабаванняў не гарадскіх, а дзяржаўных уладаў. Аднак жа мы робім сваю справу, хай часам не атрымліваючы ад сваіх высілкаў жаданага эфекту. І тое, што нашы сябры часта не бачаць чаканай імі падтрымкі ад кіраўніцтва дзяржаўных органаў і ўстаноў, многіх дэмаралізуе, знішчае ў іх жаданне працягваць сваю справу. Тут трэба зноў жа вытрымка, настойлівасць і мужнасць.

**— Гэта азначае, што колькасць сяброў Таварыства змяншаецца?**

— Гэта можа падацца дзіўным, але не. Наадварот, у горадзе ствараюцца новыя суполкі. Так, якраз за дзень да нашай размовы мне патэлефанаваў незнаёмы чалавек. Аказалася, што ён працуе ў аэрапорце Менск-2 і хоча даведацца, якім чынам ён і ягоныя калегі могуць зарэгістраваць створаную імі суполку. Акрамя таго, паведаміў ён, у іх калектыве плануецца стварэнне першаснай арганізацыі Таварыства беларускай школы. Як бачыце, нас падтрымліваюць нават у гэты цяжкі час.

**— Даводзілася чуць, што ў свой час сябры гарадской Рады на свае патрэбы атрымалі ад фірмы «Дайнова» выдавецкую сістэму. Дзеля прапаганды роднага слова Рада карыстаецца ёй у выдавецкай ці нейкай іншай, скажам, камерцыйнай дзейнасці?**

— На жаль, гэта не так. Ні выдавецкай тэхнікі, ні грошай на рахунку дзеля забеспячэння нейкіх сваіх патрэбаў мы не маем. Не займаемся мы і камерцыйнай дзейнасцю, бо сярод сяброў Рады няма дасведчаных у гэтым людзей. Прыкра, бо ва ўмовах адмаўлення дзяржаўных органаў ад падтрымкі нашых праграм іх ажыццяўленне робіцца праблематычным.

**— Вы гаварылі аб стварэнні ў горадзе суполак ТБШ. Гэтую арганізацыю вы разглядаеце як блізкую ТБМ ці альтэрнатыўную ёй? Ці маеце вы з ёй сувязі?**

— Сябрам Таварыства беларускай школы з'яўляюся і я сам — уваходжу ў аргкамітэт ТБШ. Бо яна сваімі мэтамі блізкая ТБМ. Абедзве арганізацыі маюць падобныя мэты, але ажыццяўляюць іх па-рознаму — праз уплыў на грамадства і праз выхаванне новага пакалення. Таму існаваць і наўзаем дапамагаць адна адной павінны абедзве арганізацыі, тым больш, што моўная сітуацыя ў момант стварэння цяперашняга ТБШ больш нагадвае становішча беларушчыны ў час існавання ТБШ у Заходняй Беларусі тады, калі яна знаходзілася ў складзе іншай дзяржавы.

**— Калі гаварыць аб уплыве беларускіх арганізацый на грамадства, дык даводзілася чуць ад людзей наступнае: у іхняй школе, фірме, установе перавага аддаецца беларускай мове, але ніякіх кантактаў з ТБМ яны не падтрымліваюць, бо Таварыства імі папросту і не цікавіцца. Ці датычыць гэта гарадской рады сталіцы?**

— Калі глядзець на рэчы крытычна і рэальна, дык падобная сітуацыя існуе і ў нас. Прычына ў тым, што ўсе сябры Менскай гарадской Рады ТБМ могуць займацца грамадскімі справамі толькі ў час, вольны ад асноўнай працы. А жыццё цяпер такое, што часу на грамадскія справы людзі маюць няшмат. Таму часцей размова ў нас ідзе не аб пашырэнні ўплыву арганізацыі, а аб захаванні набыткаў, зробленых раней. Хаця шмат хто ў нас разумее тое, што мы павінны шукаць кантактаў з людзьмі і перацягваць на свой бок усіх тых, хто станоўча ці хаця б нейтральна ставіцца да беларушчыны.

**— Які спосаб падаецца вам найбольш плённым у справе дасягнення мэтаў Рады?**

— Супрацоўніцтва з уладамі, з дзяржаўнымі структурамі. Толькі так можна на нешта разлічваць.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

*З нагоды*

# Выбар зроблены?

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

чорна-белыя, і з партрэтамі, і без партрэтаў — былі раскладзеныя ў самой зале для галасавання на спецыяльным стале.

Гэта было парушэннем Закона аб выбарах: у дзень галасавання вусная ці пісьмовая прапаганда або контрпрапаганда на такіх участках катэгарычна забараняецца. Але мая рука проста не паднялася складаць нейкі акт, бо, на самай справе, як пасля заявілі міжнародныя назіральнікі, доступ кандыдатаў у дэпутаты да сродкаў масавай інфармацыі падчас перадвыбарнай кампаніі быў абмежаваны. Уласна, людзі мала ведалі, за каго ім галасаваць, з каго трэба зрабіць адзіна правільны выбар. Таму я пагадзіўся з прадстаўнікамі тамтэйшай гарадской «вертыкалі» і ўдзельнікамі выбарчай камісіі, што заслаўцы ўсё ж павінны мець нейкую інфармацыю пра кожнага кандыдата. Добрая беларуская мова загадчыцы агульнага аддзела Заслаўскага гарвыканкама Вольгі Мікалаеўны Гіруць і старшыні камісіі Сцяпана Аляксеевіча Замыйскага, дарэчы, урача па прафесіі, прыемна ўражвалі. Я не ўстрымаўся і спытаўся, ці часта яны карыстаюцца беларускай мовай у сваім побыце — на працы альбо дома. І атрымаў адказ: даволі часта, бо мясцовыя, карэнныя жыхары Заслаўя размаўляюць практычна па-беларуску. Таму ім з людзьмі, якія да спадара Замыйскага прыходзяць у паліклініку, а да спадарыні Гіруць — у гарвыканкам са сваімі клопатамі, лепей кантактаваць на іхняй роднай мове. Тым больш, што Вольга Мікалаеўна і вучылася ў беларускай школе, а Сцяпан Аляксеевіч родам з Палесся.

Але якое было маё здзіўленне, калі я пачаў пасля гэтай размовы ўчытвацца ў змест улётак кандыдатаў у дэпутаты! Уся гэта, з дазволу сказаць, літаратура была напісана не на той мове, якой карыстаюцца ў пераважнай большасці заслаўцы, жыхары горада, які з'яўляецца адным з тых старажытных гарадоў, дзе пачыналася гісторыя, культура ды і царква Беларусі. Улёткі прапаноўваліся выключна ў расійскім варыянце. Ну, можа, акрамя сціплых дадзеных кандыдата ВС Уладзіміра Васільевіча Палупанава, другога сакратара амбасады Рэспублікі Беларусь у Францыі, жыхара г. Менска, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Уласна, толькі гэтыя дадзеныя, аддрукаваныя з дапамогай пішучай машынкі на стандартным аркушы паперы, ды яшчэ год нараджэння і значыліся ў лістоўцы спадара Палупанава.

Вось і ўся беларуская мова выбарчай кампаніі ў разрэзе аднаго ўчастка...

Хаця, калі па шчырасці, мне вельмі было даспадобы, што адзін з галоўных прэтэндэнтаў на вакантнае месца ў Авальнай зале, які праходзіў па згаданай акрузе, начальнік Заслаўскага гараддзела ўнутраных спраў, палкоўнік міліцыі Мікалай Мітрафанавіч Раманчанка ў сваёй праграме «Асноўных шляхоў выхаду з крызісу ў галоўных сферах жыцця грамадства» асобным радком запісаў:

«Умацаванне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, адраджэнне нацыянальнай культуры, навукі, адукацыі».

Як мне паведаміла спадарыня Гіруць, Мікалай Мітрафанавіч сам родам з Гомельскай вобласці, беларускую мову таксама любіць, беларускую літаратуру чытае на мове арыгінала, выдатны юрыст, які мае дзве вышэйшыя юрыдычныя адукацыі — скончыў у свой час ленінградскі юрыдычны факультэт пры Акадэміі міліцыі МУС СССР і Акадэмію МУС СССР. І што даволі рэдка для супрацоўнікаў органаў унутраных спраў — дэмакрат па характару і стылю работы. Ну, а ўлётка, напісаная па-расійску, — для больш шырокай прапаганды светапогляду палкоўніка. Яго, між іншым, заслаўцы вельмі паважаюць за тое, што ён умее і слова трымаць, і дапамагаць канкрэтнымі мерамі, калі хто з землякоў, бывае, патрапіць у нейкі пераплёт.

Пазітыўна я паставіўся і да абяцання, якое даваў кандыдат у дэпутаты ВС Павел Восіпавіч Уласовіч, жыхар п. Кунцаўшчына Менскага раёна, кандыдат або сельскагаспадарчых, або эканамічных навук (з улёткі не вельмі было зразумела):

«...Выкарыстаць геапалітычнае становішча Беларусі (усталяваць аплату за транзіты па нашай тэрыторыі) — гэта дазволіць павысіць узровень жыцця работнікам культуры, навукі, народнай адукацыі, медыцыны ды іншым малазабяспечаным слаям насельніцтва...»

Дзякаваць, хаця адзіны чалавек разумее, у якую матэрыяльную прорву зараз кінутая наша творчая інтэлігенцыя.

Але астатнія кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета (гэта яшчэ 5 чалавек) і кандыдаты ў дэпутаты Менскага абласнога Савета (два прэтэндэнты) пра культурныя праблемы нават і блізка не згадалі. Нібыта ўсё ў нас упёрлася толькі ў эканамічны крызіс, а крызісу духоўнага не існуе. Так і хацелася сказаць гэтым кандыдатам: ды памазгуйце, калі ласка, шаноўныя спадары і таварышы, зірніце, як крымінальнай сталася наша грамадства, як атупляе чалавека працы тая маскультура, што сёння абрынулася на Беларусь з Усходу і Захаду! Ну, не жадаеце вы, каб вашыя дзеці вучылі вершы Янкі Купалы, чыталі кнігі Васіля Быкава ды Уладзіміра Караткевіча, то дайце ім сапраўдную расійскую літаратуру — Марыну Цвятаеву, Сяргея Ясеніна, іншых паэтаў і празаікаў, якія ў сваіх творах выхоўвалі ў чалавеку не толькі любоў да Расіі, але яшчэ — цывілізаванасць да культуры мыслення і паводзін у грамадстве....

Але, вось бяда, некаторыя кандыдаты ў дэпутаты ў адрозненне ад Мікалая Мітрафанавіча Раманчанкі ў сваіх улётках увогуле паспрабавалі прапагандаваць самы агалцелы шавінізм.

У гэтым сэнсе вельмі адметнай мне падалася лістоўка кандыдата ў дэпутаты Менскага абласавета, сябра думы СС «Белая Русь» Менскай вобласці, трэнера-выкладчыка Уладзіміра Андаралы. Тут і «равные права языков», тут і «зліццё» народаў, і, канешне, злыя «БНФаўцы и прочие «згуртованцы», пресмыкающиеся перед Западом», завязаныя дзіўным чынам з ... «партноменклатурой, погрязшей в коррупции»! Але галоўнае — каб супраць беларускіх патрыётаў. І гэта абвяшчае настаўнік моладзі. Каго ж ён тады выхоўвае, калі нават асмельваецца са сваімі ваяўнічымі антыбеларускімі перакананнямі выступаць у якасці кандыдата ў дэпутаты!

Цяжка было разабрацца беларускім выбаршчыкам, хто ж у сапраўднасці тыя людзі, якія імкнуцца кіраваць імі, ствараць ім законы. Вельмі кепска, што нашы цяперашнія ўлады зрабілі ўсё, каб «зацямніць» выбарчую кампанію, а то і празамбіраваць насельніцтва з дапамогай паслухмянага тэлебачання і «сваіх» газет. Таму вельмі радуе, што ўсё ж многія здолелі зрабіць разумны выбар, раскусіўшы «воссоединительское» шаманства. Канешне, шмат хто зноў паверыў і новакамуністычным лозунгам, але і тут агалцелых абяцальшчыкаў «светлага мінулага» большасць старанілася. У выніку славянасаборац Андарала і камуніст Денілаў у заканадаўчыя органы так і не трапілі.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сакратар кантрольнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

*Набалелае*

# І ўсё «свае»...

Пасля сумнавядомага рэферэндуму і ў Слуцку сталі групавацца бацькі, якія прыйшлі да высновы, што іх дзецям цяпер вывучаць беларускую мову не трэба. У школы зачасцілі хадакі, пераважна жанчыны. З калектыўнымі заявамі. А калі бачылі, што там не сустракалі іх з абдымкамі і не надта адабралі змену моўнага «курсу» вучняў, пагражалі «дойти до самого Президента».

Яшчэ ў час летніх канікулаў на стол майго знаёмага дырэктара сярэдняй школы лягла калектыўная, на дваццаць подпісаў, заява такога зместу: «Мы, родители учеников 2-га «в» класса решили обучать своих детей на русском языке, так как мы, родители, слабо знаем белорусский язык». А далей — настойлівая «просьба» прыняць адпаведныя меры. Дырэктар спрабаваў пераканаць актывістак, што не варта траўмаваць псіхіку дзяцей, якія ў першым класе паспелі палюбіць нашу родную мову, аб чым яму даводзілася чуць водгукі настаўніка, што ўвогуле трэба глядзець далей сённяшніх рэалій. Актывісткі настойліва і бескампрамісна патрабавалі перавода, ім лепей ведаць, што трэба іх дзецям. І сталі званіць таму дырэктару па тэлефоне дамоў, нават позна вечарам, шантажыраваць, папярэджваць, што «дойдут до Александра Григорьевича».

І дырэктар здаўся — клас перавялі на расійскую мову. Праўда, ачомаўшыся, іншым ахвотнікам скасавання беларускамоўных класаў усё ж даў зразумець, што іх спадзяванні марныя, і тыя прыціхлі.

Я папрасіў дырэктара паказаць заяву тых дваццаці бацькоў. Думаў убачыць прозвішчы расійскамоўнай часткі гараджан, таму як у Слуцку пражывае нямала былых вайскоўцаў, афіцэраў у адстаўцы. А ўбачыў тыповыя беларускія прозвішчы: Цуба, Цыбулька, Кіеня, Міклуш, Бойка, Радкевіч, Трухан і г.д. Стала крыўдна і горка: да якой стадыі манкурцтва трэба дайсці, каб грэбаваць роднай мовай, адлучаць ад яе дзяцей, унукаў, разбураць іх псіхіку, нармальную самасвядомасць. Ды такога нідзе на свеце не сустрэнеш, нават у самых першабытных запалоханых народаў! Ды тыя — з лукамі і стрэламі — але, думаю, мову сваю шануюць і праціўнікаў яе, супляменнікаў, напэўна б падсмажылі на кастры і з'елі.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

Актуальна

# «Шукаць праўду – прафесійны абавязак гісторыкаў»

*Гісторык Генадзь Сагановіч атрымаў адукацыю на гістарычным факультэце Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (цяпер універсітэта). Скончыў аспірантуру Інстытута гісторыі АН Беларусі. Цяпер — супрацоўнік гэтага інстытута. Ён — аўтар напісанай на замову Рымскага камітэта першай часткі «Гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя», якая рыхтуецца да друку ў Польшчы. У Беларусі ж сёлета выйшла ягоная кніга «Невядомая вайна», якая прыцягнула да сябе ўвагу шырокага кола чытачоў. Гэта і стала нагодай сустрэчы са сп. Сагановічам нашага карэспандэнта.*

**— У свеце найбольш вядомыя імёны тых гісторыкаў, якія даследавалі старажытныя цывілізацыі Блізкага і Далёкага Усходу, Міжземнамор'я ды іншыя. У адрозненне ад сваіх славутых калег Вы займаецеся гісторыяй свайго народа, адносна маладога...**

— Не разумею калегаў, якія займаюцца гісторыяй далёкіх і чужых краёў. Цікавасць да мінулага Афрыкі ці нават Крыма ў мяне асацыіруецца з цікавасцю да перадач Клуба кінападарожжаў. Пашырэннем кругагляду суперажываецца ж толькі гісторыя свая. Вывучаць яе — гэта як пазнаваць сябе, сваю глыбокую сутнасць. Мне здаецца, вывучаць мінулае чужога й далёкага краю наогул у нечым ненатуральны занятак, бо ён наўрад ці можа даць адэкватнае разуменне чужой гісторыі (г.зн. адпаведнае самой гістарычнай праўдзе).

**— Менавіта жаданне сказаць іншым праўду пра сваю гісторыю і падштурхнула Вас да напісання «Невядомай вайны»?**

— Напісаць кнігу пра вайну 1654—1667 г. задумаў пасля таго, як сам для сябе адкрыў яе жудасны след у археалагічных раскопках ды ў яшчэ пры царскай уладзе выдадзеных актавых матэрыялах. Быў літаральна шакаваны трагізмам тых падзей. Адчуў, што гэта быў надлом, што XVII стагоддзе пакінула найбольшы след у душах беларусаў, хоць гэта яшчэ й не падмацавана навуковымі аргументамі, а толькі інтуітыўнае адчуванне. Бо застаецца вельмі шмат няяснага — пытанні, пытанні...

Кнігу падрыхтаваў вельмі хутка і яшчэ ў канцы 1991 г. здаў у выдавецтва (планавалася на 1992 г. у «Беларусі»). Хачу падкрэсліць, што гэта праца навукова-папулярная (стаўлю сэнсавы націск на другой частцы словазлучэння), адрасаваная шырокаму колу чытачоў, грамадству і напісаная адпаведна на аснове перадусім апублікаваных крыніц і апрацовак. Для сябе лічу яе як бы "ўступнай" папярэдняй, бо далей планую напісаць грунтоўнае ўласна навуковае даследаванне пра гэтую ж вайну, але перш мушу шмат папрацаваць у архівах. Пайшоў такім шляхам таму, што адчуваў вялікую патрэбу, доўг хутчэй сказаць людзям тое, аб чым не без хвалявання давядаўся сам. Гэтая паспешлівасць была пэўна ж не на карысць кнізе (калі гаварыць пра якасць тэксту, паўнату інфармацыі), але чакаць і маўчаць не выпадала.

**— Цяпер кніга мела б іншы выгляд?**

— Паколькі кніга выйшла ажно праз тры гады пасля здачы (ды й то з цяжкасцямі, дзякуючы зычлівай падтрымцы Зміцера Санько, Алеся Гурыновіча, Аляксандра Станкевіча, мастакоў Яўгена Куліка і Уладзіміра Крукоўскага, якія дапамаглі з ілюстрацыямі), яе ўжо цяпер можна істотна дапаўняць. Сабрана многа новых фактаў пра абарону Смаленска, баявыя дзеянні фармаванняў Самуля Кміціча і Аляксандра Палубінскага, пра рух народнага супраціву і інш. Новыя матэрыялы не пярэчаць асноўным думкам, выказаным у кнізе, хоць пэўныя трактоўкі (не тычыцца фактуры) я свядома завастраў, катэгарызаваў, бо адказваў антытэзай на стары набор тэзаў савецкай гістарыяграфіі (вызвольны характар вайны, нібыта падтрымка маскоўскага войска беларускімі сялянамі, непераможнасць царскіх ваяводаў).

**— Ці не здаецца Вам, што кніга выйшла не ў час? Бо ж сёння ў Беларусі на дзяржаўным узроўні прапагандуецца канцэпцыя адзінства і братэрства з Расіяй ва ўсе часы. Вас жа погляд на гісторыю многім можа быць не даспадобы...**

— Ясная рэч, прапанаванае ў кнізе апісанне падзей і ацэнка вайны многім не даспадобы. Людзі заўсёды імкнуцца аспрэчыць тое, што не адпавядае іх традыцыйным уяўленням. За дзесяцігоддзі савецкай улады гістарычная свядомасць татальна апрацоўвалася, стэрылізавалася і цяпер ці не кожны сярэдні беларус бачыць Расію адвечна добрым старэйшым братам, з якім мы заўсёды былі разам. Гэта ўбіта ў галаву, гэта заснавана на веры, а не на рацыянальным, таму нават дакументальна даказаныя прыклады агрэсіі і злачыннай палітыкі маскоўскіх уладароў не ўспрымаюцца як праўда. Аднак факты ёсць факты. І прафесійны абавязак гісторыкаў — шукаць праўду, дакопвацца да яе. Беларусам няма як забывацца на падзеі 1654—1667 гг., бо надта ж глыбокія раны пакінулі яны на народзе. Болей мужнасці трэба б мець расіянам, каб прызнаць гэтую праўду. Думаю, савецкі стэрэатып нашага ўсходняга суседа пачне трансфармавацца, калі толькі яму ў ахвяру не будзе кінутая беларуская гістарычная навука. Але гэта ніяк не павінна псаваць добрых узаемаадносін Беларусі і Расіі — жывём жа мы не ў сярэднявеччы. Проста трэба вызваліцца ад хлусні, фальшы. Навука мусіць даць народу яго сапраўдную гісторыю, каб народ мог абапірацца на дакладнае, адэкватнае разуменне ціперашніх умоў як выніку мінулага. Гэта значыць, на гістарычнае разуменне. «Як дайшло да цяперашняга становішча?» — вось генеральнае пытанне, адказы на якое расцярушаныя ў летапісах і граматах, на руінах замкаў і ў глыбіні археалагічных раскопаў. Калі ж у грамадстве не будзе мыслення гістарычнага, адпаведнага часу, запануе дагматычнае, і тады край асуджаны на стагнацыю, нерухомасць, паўтор памылак.

**— Як паставіцца да Вашай кнігі грамадства — пакажа час. А як ацанілі яе гісторыкі?**

— Гэта не сціпла, але калі ўжо на тое пайшло, скажу пра добрыя водгукі на кнігу за мяжой. Напрыклад, сярод тых, хто нармальна ацэньвае «Невядомую вайну», і адзін з лепшых знаўцаў XVII стагоддзя польскі гісторык Анджэй Рахуба. Згадаў пра гэта таму, што меркаванне спецыяліста такога класа для мяне вельмі важнае. З другога боку, пакуль не чуваць ніякіх галасоў расійскіх гісторыкаў, хоць я вітаў бы кожны выклік на канструктыўную палеміку. Дыскусія, спрэчкі былі б на карысць даследаванню, лепшаму пазнанню той страшнай вайны.

**— Вы маеце намер працягнуць сваю працу папулярызацыі гісторыі?**

— Так. І вынікам яе стала стварэнне новага перыядычнага выдання «Беларускага гістарычнага агляду».

Часопіс «Беларускі гістарычны агляд» з'явіўся ад той жа патрэбы ствараць сапраўдную гісторыю. Ніякая навуковая дысцыпліна не можа нармальна развівацца без уласнага спецыяльнага перыядычнага выдання. А ў нас акурат такога перыёдыка для гістарычных навук і не было. Калі стала ясна, што дзяржава за такі часопіс не возьмецца, яго мусілі ствараць гісторыкі, за яго мусіў брацца нехта. Так год таму і паўстаў БГА.

Наш часопіс бярэ на сябе пэўныя функцыі ў фармаванні навуковай беларускай гістарыяграфіі. Сказанае зусім не значыць, што мы, яго стваральнікі, нігілісты ў адносінах да папярэднікаў, што мы недаацэньваем іншых гістарычных выданняў. Папросту мы, у адрозненне ад іншых часопісаў, абмяжоўваемся задачамі толькі навуковымі. А ў гэтым плане беларуская гістарыяграфія страшэнна адсталая.

**— Тое, што ў Беларусі ствараецца ўласная канцэпцыя разумення гісторыі, адзначаюць не толькі айчынныя, але і замежныя даследчыкі. Але, як сведчаць падзеі апошніх месяцаў, стаўленне народа да ўласнай гісторыі ў нас вызначаюць не навукоўцы, а палітыкі...**

— Мне тут можна толькі развесці рукамі і паўтарыць словы аднаго славутага нямецкага гісторыка: «Нам, гісторыкам, даўно пара перастаць здзіўляцца, што палітыкі ніяк не хочуць вучыцца ў Гісторыі».

**Распытваў Уладзімір ПАНАДА.**

Галасы

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

### Пісьмо

«...Цяпер, дарагі Мікола, багата хто з астражанцаў мае ў сваіх селішчах коні. Раней іх не дазвалялі трымаць, а цяпер можна. Завялі коней тыя, у каго яшчэ ёсць у руках і нагах сіла, бо, сам ведаеш, каб дагледзець каня, хадзіць за плугам, грузіць на падводу дровы і сена, трэба і самому мець конскае здароўе. Коні цяпер у вёсцы — вялікая помач, апора і надзея. І той, хто яго мае, адчувае сябе ў нашай Астражанцы панам. Да яго ідуць з бутэлькамі і грашыма, каб пасадзіць бульбу, прытарабаніць у двор сена, салому, дровы. Бо ў старшыні калгаса трактар не выпрасіш — няма паліва.

Але хачу табе, зямляк, напісаць зусім не пра коней, а пра валы, якія даўно звяліся ў нашай вёсцы. Мо тое, што напішу, недзе ўставіш у сваю кнігу.

Валоў, як памятаеш, у нашым калгасе некалі было багата. Яны таксама, як і коні, добра неслі цяглавую службу, вельмі цяжкую і неабходную. Відаць, цяперашнія маладыя людзі і не ведаюць, што такое вол. Бо ніколі яго не бачылі. Вось я і хачу растлумачыць.

— Вол — гэта вылегчаны бык. Калі каровы целяцца, дык бычкоў, зразумела, нараджаецца столькі ж, колькі і цёлачак. Раней, калі не хапала коней, вялікую частку бычкоў халасцілі і рабілі з іх цяглавую сілу. Згубіўшы свой бацькоўскі інстынкт, двухрогая скаціна робіцца рахманай, назаўсёды зміраецца са сваёй чорнай доляй раба. У яго паяўляецца вялікае цярпенне, і калі мы хочам чаму-небудзь навучыцца ў жывёл, дык толькі ў вала трэба вучыцца вынослівасці, умению расходаваць раўнамерна сілы, з разлікам на тое, што большая частка работы яшчэ наперадзе.

З дзяцінства я памятаю такую карціну: у цяжкі плуг запрэжана пара валоў. Яны ступаюць важна, разумна, роўна; пазіраючы на іх, не скажаш, што яны надрываюцца, але і не падумаеш, што іх занятак — прагулка.

Або бачу, як пара гэтых працаўнікоў з ярмом на карках цягнуць па дарозе цяжкі воз, нагружаны даверху снапамі. Возчык месціцца недзе высока на снапах, спіць, зморааны паўдзёвым сонцам. А валы, не чуючы яго зычнага «цоб-цэбэ», сярэўна без панукі перастаўляюць ногі і ніколі не заблудзяцца, дацягнуць да калгаснага гумна. Ім бы зараз дабрысці да сажалкі, залезці па грудзі ў ваду, піць, піць і піць каламутную, цёплую ваду, адпачываць. Але не, трэба ісці. І брыдуць пакорлівыя валы. Густая сліна доўгімі, ледзь не да зямлі, ніткамі вісне з губ, вецер адносіць яе ў бок, яна падае ў пыл, доўгімі пісягамі блішчыць на баках.

Вось і ўсё, што я хацеў табе напісаць, Мікола. Прабач, што не зусім лоўка склаў пісьмо, бо пісаў так, як умеў».

### Падарунак

— Вось дык калатнечу ўчынілі ў Чачні! Глушаць людзей бомбамі і снарадамі, забіваюць і калечаць малых і старых. А потым з Масквы вязуць гуманітарную дапамогу. Гэта, калі спярша адрэжуць чалавеку ногі, а потым працягваюць яму ў рукі мыліцы. Як падарунак. Чачэначку малую бачыў па тэлевізары: без рук і без ног. Адарвала маскоўскай бомбай. Што цяпер ёй падарунак?

### З'ехаў назусім

— Спагадлівы быў хлопец Сяргей. І рабацяшчы. Ды вось ужо пяць гадоў яго дома няма. З'ехаў з вёскі. І пісем маці не піша. Мабыць, ніколі яна яго ўжо не пабачыць... Дрэнь справа. Чаму з'ехаў? Была прычына. Вялікая. Калі яму было сем гадоў, ускочыў ён у хату і бачыць: дзядзька Андрэй маці душыць. Ён выскачыў з хаты і — да суседа: «Дзядзька Васіль! Ратуй маму: дзядзька Андрэй яе душыць!» «А дзе душыць?» — пытаецца той. «На ложку!» Сусед засмяяўся: «Нічога, няхай падушыць. Ад гэтага не паміраюць».

Мінула дзесяць гадоў. Сяргей вырас, вывучыўся на трактарыста. І аднойчы, калі напіўся, моцна адкалашмаціў дзядзьку Андрэя. А потым прыйшоў дамоў, зняў са сцяны фотку забітага ў Афганістане бацькі і з'ехаў з дому. Яго шукалі, шукалі і не знайшлі. Знік хлопец. Назусім.

## Пачало працу Задзіночанне беларускіх студэнтаў (ЗБС) у Гомелі

Афарміўшыся арганізацыйна толькі ў канцы кастрычніка, гомельскія студэнты адразу ж узяліся за дружную працу, каб дагнаць сяброў з Менска, дзе, як вядома, ЗБС даволі плённа дзейнічае з 1992 г. і мае значны ўплыў на сталічнае студэнцтва. Адной з галоўных мэт, акрамя ўзаемападтрымкі ў жыцці і вучобе, гомельскае ЗБС лічыць спрыянне беларусізацыі навуковага працэсу ў вышэйшай школе.

**Пятро КАСТЫРКА, старшыня Рады Гомельскага аддзялення ЗБС.**

## Беларускія гімназіі

Звяртаюся да чытачоў «Нашага слова» з просьбай. Наша суполка займаецца зборам матэрыялаў аб гісторыі Радашкавіч, аб людзях, чые імёны звязаны з нашымі мясцінамі. Адной са слаўных старонак нашай гісторыі з'яўляецца праца ў 1923—29 гадах беларускай гімназіі. Нам удалося знайсці аднаго з выхаванцаў гімназіі. Дзякаваць Богу, ён жыве і захаваў добрую памяць у свае 84 гады. Гэта Іван Андрэевіч Бізюк. Газету «Наша слова» чытаюць не толькі на Беларусі. Магчыма, адгукнуцца яшчэ хто-небудзь з выхаванцаў гэтай гімназіі, ці іх родзічы. Магчыма, захаваліся якія-небудзь матэрыялы, фотаздымкі, успаміны... Мы былі б вельмі ўдзячныя ўсім, хто адгукнецца. Нас цікавіць усё пра Радашкавічы, наша наваколле, пра людзей, што жылі, працавалі ці хоць проста наведвалі Радашкавічы ў розныя часы. Калі ласка, адгукніцеся!

**Мікола ЛІННІК, старшыня Радашкавіцкай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны. 222322 Беларусь, Маладзечанскі раён, г.п.** Радашкавічы, вул. Полацкая 51, кв. 1 М. Лінніку.

ВУЧЫМСЯ

*Практычная стылістыка*

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх...

*Што тут чынілася у даўнія гады,*
*Што думалі, аб чым спрачаліся тады,*
*За што змагаліся, як баранілі веру, —*
*Узнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу!*

**М.Багдановіч.**

Цытаваныя ў назве артыкула і ў эпіграфе радкі М.Багдановіча з верша «Летапісец» надзвычай удала скіроўваюць да велічнага паводле гістарычных маштабаў і грамадска-культурнай значнасці пісьмовага помніка, які аб'ядноўвае ў гарманічнае адзінства тэксты розных прамоўніцкіх жанраў — «Аповесці мінулых гадоў» (у арыгінале «Повѣсть временных лѣт»). Аўтарства гэтага твора навукоўцы звязваюць з асобай манаха Кіева-Пячорскага манастыра Нестара і датуюць пачаткам XII стагоддзя. Аповесць народжана імкненнем дакладна адлюстраваць гісторыю славянскіх земляў, пачынаючы з глыбокай старажытнасці, часоў паганства, рэалістычна перадаць і цвяроза ацаніць сучасныя аўтару падзеі. Акрамя фальклорных вытокаў (легендаў пра паходжанне славян, іх рассяленне, звычаі, характар, узнікненне княжацкіх родаў), пісьмовы помнік нясе кніжныя традыцыі, звязаныя з Бібліяй, кіеўскімі і візантыйскімі летапісамі, хронікамі, жыціямі, якія творча асэнсаваны аўтарам і па-майстэрску спалучаны ў культурна-моўнае адзінства. Вядомы беларускі даследнік А.Коршунаў звяртае ўвагу на такія аб'яднаныя ў творы тэксты, як апавяданні і ўспаміны сучаснікаў летапісца, воінская аповесць, дружынная песня, юрыдычныя помнікі (напрыклад, дагаворы рускіх князёў з Візантыяй), этнаграфічныя замалёўкі. Іх лучыць назва летапісу — аповесць — і апавядальна-падзейны змест. Апавядальнасць, падзейнасць, сюжэтнасць сталі і стрыжнем стылю.

Гэты твор высока цаніўся сучаснікамі і нашчадкамі, сведчаннем чаго з'яўляецца значная колькасць датаваных розным часам летапісных зводаў, у якіх ён вядомы. (Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Радзівілаўскі і іншыя летапісы). Некаторыя гістарычныя зборнікі, а таксама Беларуска-Літоўскі летапіс 1446 г. уключаюць аповесць са скарачэннямі.

Беларускія рэаліі ў гэтым творы перададзены расповядам пра Полацкае княства: ярка, выразна, дэталізавана ўзнаўляюцца падзеі, звязаныя з полацкім князем Рагвалодам і яго гордай дачкой Рагнедай, прымушанай пайсці замуж за Уладзіміра, аднак не скаронай. Скупа, надзвычай сцісла і рэалістычна апісваюцца міжкняжацкія войны (бітвы пад Менскам і на Нямізе). Вобразна, эмацыянальна і маляўніча пераказваецца неверагоднае здарэнне ў Полацку: тупат і сляды нябачных коннікаў, нябеснае ззянне, іх трагічныя наступствы.

Кожны з гэтых сюжэтаў адметны сваім моўным увасабленнем, падпарадкаваны законам красамоўства, адпавядае канонам прамоўніцкага жанру расповяду з яго яркай стылістычнай асаблівасцю — шматзлучнікавасцю, характэрнай для летапіснай, «біблейскай» формы выказвання, уласцівай таксама фальклору.

Шматзлучнікавасць, ці полісіндэтон, з'яўляецца стылістычным прыёмам паўтарэння аднолькавых злучнікаў пры спалучэнні слоў словазлучэнняў і сказаў у тэкст, — ствараецца эфект размеранасці, плаўнасці (часам узрушанасці, хвалявання), значнасці, важнасці апавядання. Найбольш часта ўжываецца спалучальны злучнік **і** з падкрэсленай інтанацыяй пералічэння ці далучэння. Напрыклад, у апісанні бедаў, што спасцігл і людзей пасля злавесных цудаў у Полацку, шматзлучнікавасць узмацняе трагізм, узбуйняе яго праявы: «В се же лѣто [у той год] ведро бяше [была суш], яко изгараше земля [якая спаліла зямлю], **и** мнози боровѣ възгарахуся сами **и** болота [шмат загарэлася бароў і балотаў]; **и** многа знаменья бываху по мѣстом (шмат адзнак было па гарадах); **и** рать велика бяше [была] от половець [ад палаўцаў] **и** отвсюду, взяша [захапілі] 3 грады <...>, и много села [насельніцтва] воеваша по обѣма странома [ваявала па двух берагах Дняпра]...»

З падобным эфектам шматзлучнікавасць выкарыстоўваецца таксама ў пералічальным трохчленным аднародным радзе, дзе аўтар называе прычыны апісаных бедстваў, тлумачыць іх няправедным жыццём людзей. Стылістыка гэтага ўрыўка характэрна творам прытчавага, дыдактычнага зместу, блізкая адпаведным жанрам тэкстаў Кірылы Тураўскага, вызначаецца ўзвышанасцю, строгасцю, духоўнасцю: [бог кажа нам] «имѣти покаянье и въстягнутися [устрымацца] от грѣха и от зависти и от прочих злых дѣл [дзеянняў]...»

Прыхаваная эмацыянальнасць, унутранае напружанне, глыбіня і рэалістычнасць адлюстравання перададзены шматзлучнікавасцю пры апісанні ўзяцця Менска трыма братамі Яраславічамі і бітва іх на Нямізе з полацкім князем Усяславам: «И придоша [прыйшлі] к Мѣнску, і мѣняне затворишася в градѣ [менчукі замкнуліся ў горадзе]. Си же братья взяша [захапілі] Мѣнеск, и исѣкоша мужѣ [забілі мужчын]... и поидоша [пайшлі] к Немизѣ...»

Як бачым, шматзлучнікавасць надае тэксту выразныя сэнсавыя і інтанацыйныя адзнакі, таму выкарыстоўваць злучнікі трэба матывавана — для вылучэння паведамлення, стварэння стылістычнага эфекту праз інтанацыю і тэмп выказвання. Шматзлучнікавасць, беручы вытокі ў антычным красамоўстве, шырока выкарыстоўваецца і зараз, часта для стылізацыі (узнаўлення стылю) старажытнага летапіснага ці біблейскага расповяду, тым самым вяртаючы нас да аддаленых часоў, пра якія сваім зместам і мовай сведчыць «Аповесць мінулых гадоў», каб людзі зведалі аб прадзедах сваіх...

ACADEMIA «NS»

*Гісторыя моваў на Беларусі*

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Заканчэнне.)*

*«Гэта, што беларусы названня беларус не знаюць, то праўда, але тое, што яны з народнасці свае ніякай справы не здаюць, то няпраўда. Яно-то можа трохі і не так, як бы трэба было, але ўсё ж такі цямяць, што яны не маскалі і не палякі».*

**З рэферата на калядны сход «Беларускай грамады» 1903 года.**

## Ва ўсе вякі

### (Падвядзём першыя вынікі)

Вось і перагорнута апошняя старонка часткі навукова-папулярнага нарыса «Гісторыя моваў на Беларусі», якая прысвечана важнейшай сярод гэтых моваў — беларускай. Нарыс гэты ў пэўным сэнсе наватарскі. Бадай упершыню тэмай асобнай працы з'явілася **функцыянаванне** беларускай мовы ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага — эпоху, калі мова нашых продкаў перажыла небывалы ўзлёт і трагічны заняпад, вынікі якога даюць сябе адчуваць і зараз. У цэнтры ўвагі была, такім чынам, нязвыклая ўжо ў навуковай і папулярнай літаратуры **структура** старажытнай беларускай мовы (яе сістэма пісьма — графіка, арфаграфія, фанетыка; граматычны лад — марфалогія і сінтаксіс; лексічны склад), хаця і яе яшчэ трэба адкрываць шырокаму чытачу. Маёй мэтай было, адхіліўшы заслону часу, паказаць мову нашых продкаў жывой, трапяткой, якой яна гучала з іх вуснаў.

Найперш было прасочана станаўленне самай вышэйшай формы нашай мовы — **літаратурнай**, як найбольш апрацаванай і функцыянальна нагружанай. Гэты працэс быў паказаны ў прасторы і часе — у розныя эпохі і ў розных жанрава-стылістычных разнавіднасцях пісьменнасці. Трэба было адкрыць, што хаваецца за мудрагелістым росчыркам пяра нашага прашчура, як гэта напісанне гучала з трыбуны сойма, царкоўнага амвону.., якія сімпатыі, ідэалы ці забабоны вадзілі яго рукой, які ўплыў на яго аказалі гістарычныя працэсы і падзеі часу — гуманізм, адраджэнне, рэфармацыя, контррэфармацыя, Люблінская і Берасцейская уніі і г.д. Асноўны метад, якім я пры гэтым карыстаўся, — гэта **рэканструкцыя** — абапіраючыся на моўныя і пазамоўныя факты гісторыі і сучаснасці, трэба было ўзнавіць жывое аблічча нашай мовы ў старажытнасці. Гэта асабліва было дарэчы тады, калі гаворка заходзіла аб вусных формах агульнанароднай мовы — **наддыялектных формах, тэрытарыяльных і сацыяльных дыялектах.** Для таго каб быць больш зразумелым непадрыхтаванаму чытачу, даводзілася перакідваць мосцік у сучаснасць — раскрываць сутнасць той або іншай вуснай формы мовы на прыкладзе таго, з чым мы сутыкаемся ў нашым сённяшнім паўсядзённым жыцці і на што ўжо не звяртаем увагі, але што якраз і характарызуе мову як жывы арганізм.

Наша даследаванне сведчыць, што беларуская мова заўсёды была непаўторнай, жывой, паўнацэннай мовай, мовай асобнага славянскага народа, які праз яе выявіў моц свайго генія. На гэтай мове беларусы напісалі свае законы — Статут, самы лепшы ў тагачаснай Еўропе, літаратурна-мастацкія творы, царкоўныя кнігі... Яна існавала ва ўсіх магчымых непісьмовых формах — ад народна-гутарковай мовы да розных жаргонаў. Гэта абвяргае сцвярджэнні імперскіх і шавіністычных сілаў аб тым, што беларуская мова — мова народа, штучна прыдуманая буржуазнымі нацыяналістамі, каб, адгарадзіўшыся ад «братской семьи народов», узнавіць капіталістычны лад. Але час — самы строгі суддзя. Ён вынес прысуд камуністычнай імперыі, якая на справе была не «царствам свабоды», дарогу ў якое бальшавікі масцілі касцямі народа, а ўсяго толькі ўдасканаленай мадэллю царскай турмы народаў. Пра гэта зараз трэба нагадваць уголас, бо адэпты «светлага ўчора» не збіраюцца складваць сваёй зброі. Спецыяльна давёўшы народ да мяжы жабрацтва, яны, скарыстаўшыся гэтым, імкнуцца прымусіць яго збочыць з указанага самой гісторыяй дэмакратычнага шляху. Менавіта гэтай мэце служыць шэдэўр тактыкі вечна ўчарашніх — сумна вядомы травеньскі рэферэндум, які быў адкрытым, цынічным здзекам з нашай нацыянальнай годнасці, нашага слаўнага мінулага, дарагія суродзічы, здзекам апантаных вар'яцкай ідэяй авантурыстаў, для якіх на шляху да яе ажыццяўлення не існавала ні годнасці асобы, ні агульначалавечай маралі... Якім так карціць зноў загнаць у стойла народ, які на зломе гісторыі паспеў глытнуць свабоды,ператварыць нас зноў у «масу» для мэтаў ажыццяўлення сваіх вар'яцкіх сацыяльна-эканамічных эксперыментаў. Нас хочуць сцерці з твару зямлі як асобны этнас, каб аб нас засталіся толькі нашыя Літоўскія Статуты, кнігі Скарыны, Купалы і Коласа..., як зараз аб старажытных прусах нагадваюць толькі тэксты, аб былых насельніках нашых земляў дайновах, судовах, яцвягах — мясцовыя назвы. Аднак будзем памятаць, што мы стаім на парозе новага стагоддзя, у якім такое варварства недапушчальна. За намі наша слаўная гісторыя, з намі абуджанае да праўды чалавецтва. Жыве Беларусь!

*Культура мовы*

# Весялосць і весялун — а не *вяселле* і *весяльчак*

Па Беларускім тэлебачанні цяпер нярэдка можна пачуць у беларускім тэксце небеларускія словы. Так, 21 лістапада 1995 года паказваўся фрагмент сустрэчы з ветэранамі. У развагах дыктара (аглядальніка) прагучала і вось такое: «У зале панавала **вяселле**...» Гэта адразу насцярожыла. Якія гэта ветэраны ладзілі тут шлюбнае застолле? Але, як высветлілася, гаворка ішла пра «вясёлае праведзенне часу ветэранамі». І слова **вяселле** тут не да месца, яно не беларускае, а расійскае. Перакладныя слоўнікі фіксуюць з гэтым значэннем беларускае слова **весялосць.** Так, «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953, с.54) падае: «Веселье ср. весялосць, -ці ж». І ў другім, двухтомным перавыданні гэтага слоўніка таксама бачым: «Веселье ср. весялосць ж.» (РБС—82, т. 1. С. 91). Тое самае і ў самых апошніх трохтомных перавыданнях. У 4-м выданні (1993) і ў 5-м (1994 г.) на с. 157 першага тома зафіксавана: «Веселье ср. весялосць, -ці ж.».

М.Байкоў і С.Некрашэвіч у «Беларуска-расійскім слоўніку» (Менск, 1926, с. 74) падаюць гэтае слова трохі з іншым акцэнтаваннем: «**Вясёласьць** ж. — веселье, радость».

Лексема ж **вяселле** мае ў беларускай мове зусім іншае значэнне — «абрад шлюбу і ўрачыстасць, святкаванне, звязанае з гэтым», а таксама «шлюбны поезд». У расійскай мове яму адпавядае: 1) «свадьба» ж., 2) «свадебный поезд» — як сведчыць «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962, с. 195). І ў самым апошнім двухтомным перавыданні гэтага слоўніка (Мн., 1988, т. 1, с. 301) чытаем: «Вяселле ср. 1. свадьба ж.; 2. свадебный поезд; сярэбранае вяселле — серебряная свадьба; залатое вяселле — золотая свадьба...»

Дык ці доўга будуць дыктары (аглядальнікі) Беларускага тэлебачання жаніць ветэранаў? На жаль, ім у гэтым дапамагае і «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Мн., 1977, т. 1, с. 603), у якім побач з натуральнымі значэннямі 1) «абрад шлюбу» і 2) «шлюбны поезд» уціснута і штучнае 3) размоўнае «вясёлае праведзенне часу, гульні, забавы». Толькі здагадвацца трэба, якія «гульні і забавы» былі на той сустрэчы з ветэранамі?

Знаходзім у гэтым слоўніку і небеларускае слова **весяльчак**. На с. 483 чытаем: Весяльчак, весяльчака, м. Тое, што і весялун.

Але слова **весельчак** не фіксуецца ў беларускай частцы ніводным з акадэмічных перакладных руска-беларускіх слоўнікаў.

Расійскае **весельчак** тут перакладаецца беларускім утварэннем з суфіксам -ун: **весялун.** Так, у «Русско-белорусском словаре» (1953, с. 54) бачым: «**Весельчак** разг. **весялун**, -на». У двухтомным перавыданні (Мн., 1982, т. 1, с. 91) таксама: «Весельчак разг. весялун, род, веселуна м.».

У «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 года чытаем: «**Весялун**, -селуна м. разг. весельчак» (с. 150). І няма тут гэтага штучнага «весяльчак». Нават у двухтомным «Беларуска-рускім слоўніку» (Мн., 1988, т. 1, с. 299), які не скрозь вызначаецца падтрыманнем літаратурнай нормы, форма **весяльчак** падаецца без тлумачэння яго значэння, з адсылкай да **весялун**, якое і лічыцца лексічнай нормай.

Абодва штучныя для беларускай мовы словы **вяселле** і **весяльчак** у «Тлумачальным слоўніку» ілюструюцца цытатамі з твораў І.Шамякіна. Праўда, «Тлумачальны слоўнік» яшчэ не знайшоў формы жаночага роду — пары да весельчака — слова **весяльчачка.** Але ж літаратурнаю нормаю выступае слова **весялун.** Яно мае і адпаведную форму жаночага роду — **весялуха.** Словы **весялун** і **весялуха** як назвы асобы якраз і стасуюцца з лексемай **весялосць**: усе яны ўтвораныя ад прыметніка **вясёлы.** І тлумачэнне іх значэння гэта пацвярджае: «*Весялосць*, -і, ж. Уласцівасць **вясёлага**.//Радасць, радасны настрой... **Весялун**... **Вясёлы**, жыццярадасны мужчына... **Весялуха**... Жанчына з **вясёлым** норавам». («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ( Мн., 1977, т.1, с. 483).

Слова ж **весяльчак** стасуецца з лексемай **вяселле** (рас. веселье —> весельчак). Ад слова **вяселле** ў беларускай мове ўтвораны **вясельнік** і **вясельніца,** якія маюць у згаданым «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» наступнае тлумачэнне: «**Вясельнік**, -а, м. Разм. Удзельнік **вяселля** (у 1, 2 знач.). Вясельніца, -ы, ж. Жан. да вясельнік. (Тамсама, с. 603). З гэтага тлумачэння і відаць уся штучнасць слова **весяльчак** у беларускай мове, якое не мае свае ўтваральнае асновы (базы).

Як бачым, літаратурнаю нормаю ў беларускай мове выступаюць словы **весялосць** і **весялун.** Гэтае нормы і трэба трымацца! А не засмечваць слоўнік нашае мовы штучнымі пазычаннямі **вяселле** і **весяльчак.** Хоць іх і «облюбовал» нехта з пісьменнікаў-лаўрэатаў Ленінскай прэміі.

**Павал СЦЯЦКО.**

Уражанні

## Ваўкі

У перапоўненым вагоне дызель-поезда, у якім я дабіраўся дамоў адным з нядаўніх выхадных з загараднай вандроўкі, звярнуў увагу на двух салдат, якія стаялі ў тамбуры каля дзвярэй і моўчкі паглядалі ў акно. На іхняй сучаснай, мудрагелістай вопратцы для мяне, чалавека абсалютна цывільнага, вызначыць род войск, у якіх яны служаць, было марнай справай. На руках бушлатаў я ўбачыў увогуле загадкавую эмблему: галава сабакі, а хутчэй мацёрага ваўка. З яго моцна расчыненай зяпы звісаў вялізны язык ярка-чырвонага колеру. Складвалася ўражанне, што язык той быў толькі што абмакнуты ў жывую кроў.

— Што за войскі, калі не сакрэт? — не стрымаў я сваю цікавасць.

Хлопцы з прыкметнай фанабэрыстасцю павярнулі ў мой бок галовы. Адзін з іх, насмешлівым позіркам абвёўшы мяне з ног да галавы, невыразна, скарагаворкай нешта прамармытаў. Урэшце я ўсё ж зразумеў, што служаць яны не то ў асобнай, не то ў спецыяльнай брыгадзе разведкі.

— Сабакаводамі-кінолагамі? — паспрабаваў удакладніць я, чым выклікаў у салдат яшчэ большую пагарду.

— Прычым тут кінолагі? — нават абурaліся чамусьці яны.

— Дык гэта не сабака, а сапраўды воўк-драпежнік, ды яшчэ ў такой кроважэрнай позе! — сказаў я. — Але ж воўк — гэта хутчэй не разведчык, а дыверсант.

Пераканаўчага пярэчання на мой аргумент у служывых не знайшлося. Праўда, ранейшай пагарды на іх тварах, здаецца, паменела. А праз некаторы час, пераступіўшы некалькі разоў з нагі на нагу, кірпаты, са светлай, кароткастрыжанай чупрынай знайшоўся першы:

— А што тут, уласна, незразумелага? Воўк — лясны жыхар і мы...

Недагаварыўшы, пэўна мяркуючы, што і так усё зразумела, разведчык зноў павярнуўся да акна. Не хацелася працягваць дэбаты і мне. Вядома, эмблему з выявай страшнага драпежніка, вечнага ворага чалавека, прыдумалі не яны, вось гэтыя юныя абаронцы нашай маладой краіны. Зразумела, не прапанаваў нейкі высокі чын, няйначай з прэзідэнцкага атачэння, і ўспомнілася, з якой апантанасцю тлумачыў нам з тэлеэкранаў Прэзідэнт (а яму дружна падтакнула большасць пажылых грамадзян), што з характэрнага беларуса нават выява воіна-конніка на першым гербе суверэннай рэспублікі не стасуецца.

## Хоць бы хны

Бываючы ў Менску, начую ў брата, у доме па вуліцы Бялецкага, што на Паўднёвым Захадзе сталіцы. Шлях ад аўтобуснага прыпынку праходзіць каля адносна новага і ў цэлым прыгожага будынка сярэдняй школы. А мо цяпер ужо і не школы, а якоганебудзь, як цяпер пайшла мода на англійскую мову перакапыльваць — каледжа, ці яшчэ неяк там. Але ж справа не ў тым. Гады тры яшчэ таму заўважыў, што з заходняга боку таго будынка разхісталася сістэма вадасцёка. У выніку вада з даху трапляе на сцяну, ад чаго тая пазелянела і пачынае разбурацца. Каб падрамантаваць вадасцёк, спатрэбіцца максімум дзве пары мужчынскіх рук і гадзіна часу. Мо яшчэ кавалачак трубы. Не паверу, каб усяго гэтага за столькі часу не знайшлося, калі не ў наставнікаў, дык у бацькоў. Аднак, відавочна, не знайшлося ініцыятыўнага чалавека. І тут якія прыгожыя шыльды на фасад ні чапляй, якое моднае найменне школе не выдумляй, а выхоўваць маладое пакаленне беларусаў гаспадарлівым ды руплівым яна наўрад ці зможа. Кожны будынак пачынаецца не з моднай шыльды, а з надзейных сцен і вуглоў.

А мы яшчэ здзіўляемся часам, як гэта нашы некаторыя педагогі абыякава, а ў асобных выпадках і наогул адмоўна ставяцца да зберажэння нашай роднай мовы-матухны. Тут дах хутка на галаву упадзе і то хоць бы хны!

## Камень

Да адпраўкі аўтобуса заставалася больш гадзіны, таму я вырашыў прайсці па цікавых мясцінах, якіх нямала ў наваколлі Камянца. Не вельмі далёка ад аўтастанцыі знаходзіцца знакамітая Белая вежа. З шляху да яе і пачаў сваё вандраванне. Трэба зазначыць, што наведваў я гэты славуты помнік старажытнарускага абароннага дойлідства не першы раз. Таму сутыкнуцца з нечым новым, прынамсі, у вонкавым выглядзе вежы, што б магло затрымаць даўжэй мой погляд, я не спадзяваўся. Аднак раптам, калі, задраўшы галаву, выйшаў прыкладна на паўночна-заходні яе бок, у адной з вонкавых ніш заўважыў галубінае гняздо, а ў ім — вялізны камень.

Ніякавата зрабілася на душы, крыўдна і маркотна.

**Уладзімір ХРЫСЦЮК.**
г.Бярэсце.

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

*У хаце ёсць пакойчык чысты,*
*А вокны светлы і панадны.*

**Хата.** Ням. Kot(e), Kate f з ніж.-ням. kot 'хаціна'. Ад аднаскладовай формы ўтварылася англ. cot 'хаціна, хлеў' да якога ўзыходзіць англ. cottage. С.-лац. cotagium, ст.-франц. cotage 'катэдж, дача, загарадны дом'. І беларускае, і нямецкае словы паходзяць ад і.-е. кораня *geu- 'гнуць'.

*Цякла тут з лесу невялічка*
*Травой заросшая крынічка,*
*Абодва берагі каторай*
*Лазняк, ракітнік абступалі;*
*Бруіліся ў цяньку іх хвалі*

**Хваля.** Ням. Welle f, с.-в.-ням. wëlle, ст.-в.-ням. wëlla узыходзіць да і.-е. кораня *uel- 'круціць, паварочваць, пракочваць'.

*Тае ж зямлі якраз валока, —*
*Міхась распісваў з жарам далей: —*
*А чорны грунт — дванаццаць цалей!*

**Цаля.** Ням Zoll m 'азначэнне меры' ўзыходзіць да дагерманскага dinos 'адрэзанае' і вядзе да і.-е. кораня *del- 'калоць, вырэзваць, па-майстэрску абчэсваць'. Параўноўваецца з грэц. daf- dalos 'па-майстэрску абрабляць' і інш. С.-в.-ням. zol — 'сустаў пальца, фаланга пальца'. Меркі dūme, finger, eines fingers breit вызначаны мерай zoll, якая ўведзена ў 1527 г. А.Дзюрэрам.

*Цукеркі дзеду — не, не любы,*
*Няхай іх качкі: псуюць зубы.*

**Цукерка. Цукар.** Ням. Zucker m. Ст.-інд. śarkarā 'цукар-пясок' дало персідскае šäkär. Адсюль, з аднаго боку, з'явіліся грэц. sákcharon, лац. saccharum, рас. сахар, з другога боку — араб. sukkar. Ад арабаў, якія ў Іспаніі вырошчвалі цукровы трыснёг, з'явілася ісп. azúcar. З Сіцыліі італ. zucchero пранікла на паўночны захад і дало с.-лац. zuccarum, zuccara. Праз Альпы слова і тавар ў XII ст. трапіла да паўднёвых германцаў як cuccer, zuccer, zuker.

Zuckerl, das аўстр. цукерка.

Zucker m <санскр. -> перс. -> грэц. -> араб. -> італ. -> лац.> цукар.

*Аздоблен квас быў і грыбамі,*
*Выключна ўсё баравічкамі;*
*Цыбуля, перчык, ліст бабковы —*
*Ну, не ўясісь, каб я здаровы!*

**Цыбуля.** Ням. Zwiebel f, с.-в.-ням. zibolle, zibel, ст.-в.-ням. cibolla, ад лац. cēpulla, памяншальнае ад cēpa, якое ў сваю чаргу ад грэц. *képe.

*Зірні, зірні: гара якая!*
*На ёй і будка цагляная...*

**Цэгла.** Ням. Ziegel m мае яшчэ значэнне 'чарапіца': Das Haus mit Ziegeln decken (WDG). Лац. tēgula 'чарапіца'. З паўднёвым каменным будаваннем прыйшло да германцаў. Ст.-сакс. tiegla f, ст.-в.-ням. ziagala f, ziagal m, с.-в.-ням. ziegel m.

*Малыя з хаты высыпалі,*
*За брамай бацьку сустракалі.*
*Алесь браў стрэльбу, шапку з цэшкай*
*І нёс з шчаслівюю усмешкай.*

**Цэшка.** Ням. Abzeichen n 'значок, эмблема, распазнавальны знак' узыходзіць да Zeichen n, с.-в.-ням. zeichen, ст.-в.-ням. zeihhan 'знак цуда'. І.-е. корань *dei-, *deiā- 'ясна блішчэць, зіхацець, свяціць'.

# Матэрыялы для Крыўскай (Беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі

**Валатоўкі.** Так нашыя продкі называлі доўгія, падобныя на земляныя валы, курганы. Сучасныя навукоўцы называюць іх доўгімі або крывіцкімі і датуюць іх V—X стагоддзямі пасля Х.н. Распаўсюджаны яны па абшарах, населеных племем крывічоў: у вярхоўях Нёмана, Заходняй Дзвіны, Волгі, а таксама на Пскоўшчыне, у Латвіі ды Эстоніі. Як падае С.В.Максімаў, расійскі этнограф, які ў 80-я гады мінулага стагоддзя даследаваў побыт смаленскіх беларусаў, «па беразе Днепра курганы цягнуцца амаль непрарыўна, дзесяткамі розных кірункаў... Гэта можа паказваць толькі на тое, што ў беларускіх краях сучаснае племя жыве на даўніх папялішчах іншага, мінулага жыцця, што пахавана ў невядомасці і пакінула толькі цёмныя сляды ў магільных насыпах...»

Адметную назву — *валатоўкі* — такія курганы атрымалі, відаць, таму, што ўражвалі сваімі памерамі: некалькі дзесяткаў метраў даўжынёй, 8—10 метраў шырынёй, 1—2 метры вышынёй. Параўноўваючы з курганамі, круглымі па форме — капцамі, якія насыпаліся на магілах некаторых славутых ваяроў, нашыя продкі ўяўлялі сабе тых людзей, магілы якіх былі такімі вялікімі, і называлі іх волатамі. Ад гэтага слова ўтварылася і назва даўгіх курганоў. Славуты наш археолаг, краязнаўца Адам Чарноцкі (Зарыян Даленга-Хадакоўскі) занатаваў яшчэ адну іх назву — *валоткі.*

**Варапай.** Міфічнае бостваа нашых прашчураў, якое апекавалася вясельным абрадам. Ягонае імя захавалася ў вясельнай песні:

*Ды пытаўся каравай у перапечы,*
*Ды куды сцежка да клеці.*
*Ах ты, караваю-варапаю,*
*Часта ў клеці бываеш,*
*Сцежкі-дарожкі пытаеш.*

З гэтых радкоў і выводзяць звычайна значэнне слова *варапай* — фальклорны эпітэт каравая або мужа ці жаніха. А звязваюць яго з даўнім звычаем выкрадання нявесты, зыходзячы ад значэння слова *вароп* — напад, аграбленне. Але ж каравай — атрыбут шлюбны, атрыбут абраду, прававога зацвярджэння новай сям'і, прадаўжальніцы роду або ягонага пачатку. Мабыць у гэтым трэба шукаць сэнс слова варапай, якім маглі калісьці называць бостваа, што апекавалася шлюбам.

**Ваўкалак**. Гэтае слова пазначае адну гістарычную з'яву, што бытавала ў грамадстве нашых далёкіх прашчураў, у ліку якіх былі і неўры. (Пра іх — у адпаведным артыкуле.) Упершыню існаванне ваўкалакаў пацверджана грэцкім гісторыкам Герадотам, які дзве з палавінай тысячы гадоў таму наведаў Паўночнае Прычарнамор'е, дзе вывучаў звычаі, абрады скіфаў ды іх паўночных суседзяў — неўраў. У чацвёртым томе сваёй «Гісторыі» Герадот напісаў: *«У неўраў звычаі скіфскія... Гэтыя людзі, відавочна, ведзьмакі. Скіфы і эліны (грэкі), якія жывуць сярод іх, прынамсі, сцвярджаюць, што кожны неўр штогод на некалькі дзён абарочваецца ў ваўка, а пасля зноў вяртае чалавечы воблік».*

Адно значэнне гэтай з'явы — цалкам рэальнае. Яно, відаць, звязана з абрадавымі рытуальнымі скокамі маладых мужчынаў-ваяроў падчас нейкага, верагодна зімовага, родавага свята. Паходжанне назвы *ваўкалак* мовазнаўцы тлумачаць спалучэннем двух слоў: *воўк* і *длак* (валасы па-сербску). Ваўкалак — той, хто з воўчай поўсцю. І, відаць, не выпадкова ў беларускай народнай казцы «Шкляныя горы» воўк кажа герою Івану Знайдзёну: «Вырві ж ты ў мяне праміж вушэй шэрсці. Калі я табе буду патрэбен, мае шэрсці прыпячы (на агні) — я к табе і буду!»

І ў наш час на каляды ходзяць шчадроўнікі, сярод якіх і дзецюкі ў вывернутых кажухах.

Паводле сведчання этнографаў яшчэ пад канец мінулага стагоддзя паўсюдна на Беларусі можна было пачуць расповяды пра ваўкалакаў. У кнізе «Легенды і паданні» шматтомнага збору твораў беларускай народнай творчасці пададзена 11 легендаў пра пярэваратняў-ваўкалакаў. Яны былі запісаны ў Гомельскім, Ігуменскім (цяпер Чэрвеньскі раён), Барысаўскім (бацькам М.Багдановіча, Адамам Юр'евічам), Менскім, Навагрудскім, Слонімскім, Слуцкім паветах.

Ёсць і дзве легенды, што паходзяць з Латвіі ды Украіны. Адну з іх пачуў у 1940 годзе С.Сахараў у в.Стырблі Ілукстэнскага павета ад Пятра Касінскага. Другую запісалі на хутары Воўча Даліна Васількоўскага павета Кіеўскай губерні. Звяртае на сябе ўвагу ў «Каментарыях» кнігі «Легенды і паданні» тлумачэнне да гэтай легенды П.Равякіна (відаць, ён запісаў яе): «1. Вовкулаки (невро-литвины)». Як вядома, у той час беларусаў называлі ліцвінамі.

Першае згадванне пра ваўкалакаў у творах мастацкай літаратуры мы знаходзім у «Слове пра паход Ігаравы». Аўтар «Слова...»(а за яго маскоўскі даследчык Б.І.Зотаў прызнае славутага беларускага царкоўнага дзеяча Кірылу Тураўскага) надзяліў надзвычайнымі — ваўкалацкімі — уласцівасцямі полацкага князя Усяслава Чарадзея (успомніце: усе неўры — ведзьмакі), які «сам уночы ваўком рыскаў», самому вялікаму Хорсу (богу-Сонцу) шлях перабягаў.

Легенды пра ваўкалакаў не маглі не зацікавіць беларускіх паэтаў, якія ў мінулым стагоддзі распачалі першае беларускае Адраджэнне. Юнак Паўлюк Багрым з Крошына, што каля Баранавічаў, напісаў у сваім вершы «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» (адзіным, што захаваўся): «...у ваўкалака абярнуся, з шчасцем на вас азірнуся». Варта звярнуць увагу на слова «з шчасцем», што, магчыма, павінна азначаць добры знак ваўкалака як істоты, зычлівай да людзей. Шмат гадоў пазней другі беларускі паэт, ужо не селянін, а граф Альгерд Абуховіч склаў філасофскую байку «Ваўкалак».

# Ідэя паэтычнага габелена

Не дзіва, што аматары паэзіі імкнуцца чытаць вершы, прычым выдатныя. Але сустракаюцца з наступнымі праблемамі. Вершаў і выданняў, дзе яны надрукаваныя, так шмат, што, каб іх прачытаць, трэба толькі гэта і рабіць, а чытанне вымагае шмат часу. І патрэбнага выдання ці твора можна проста не знайсці ці проста не ведаць пра само існаванне нейкага паэта, яго кнігі ці верша. Не ўсе вартыя таго вершы трапляюць у друк з прычыны абмежаванай колькасці газет, часопісаў, кніг, у якіх яны могуць пабачыць свет, а таксама праз недасканаласць сістэмы адбору вершаў у друк. Нарэшце, змест прачытаных вершаў можа не адпавядаць патрэбе чытача, быць яму нецікавым. А, між тым, сярод іх застанецца не знойдзеным «залатое зерне».

Каралеўна Паэзія патанае ў моры вершаў, над якім лунае ідэя падаць ёй руку. Гэта ідэя стварэння беларускага паэтычнага габелена перыяду 1980—1995 гадоў, у які кожны можа ўваткаць сваю непаўторную нітку-верш. Абсалютна любы аўтар вершаў, напісаных за гэты перыяд, можа выбраць да дзесяці сваіх менавіта найлепшых твораў, а не тых, што яшчэ не бачылі друку, і даслаць іх на адрас укладальніка ў надрукаваным выглядзе або разборліва напісанымі ад рукі. Просьба да родных, сяброў і аматараў творчасці ўжо спачылых паэтаў дасылаць улюбёныя вамі іхнія творы гэтага перыяду. Тэрмін адпраўкі вашых лістоў з матэрыяламі — да пачатку 1996 года.

Крытэрыі мастацкай вартасці вершаў, як агульнавядомыя формулы, якія кожны разумее і прымяняе па-свойму. Таму, безумоўна, аўтаматычнага ўключэння ў зборнік не будзе.

Фінансаванне гэтага праекта будзе недзяржаўным. Выданне безганарарнае. Мяркуецца надрукаваць 1500 паасобнікаў. Кніга будзе мець паменшаны, «сувенірны», фармат, цвёрдыя вокладкі, якасную паперу і рэпрадукцыі твораў мастака Юрыя Хілько, які, на маю думку, перадае дух Беларусі сродкамі выяўленчага мастацтва, як У.Караткевіч сродкамі літаратуры.

Калі ласка, дасылайце свае вершы на адрас укладальніка зборніка:
225320 Беларусь,
Брэсцкая вобласць,
г. Баранавічы,
вул. Першукевіча, 40-1
Бакачу Алесю Уладзіміравічу.

